


ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ
ЛІСТАПАД 1934 № 11

# 5 ГОД

У 1929 годзе, у кастрычніку месяцы, вышаў першы нумар „Іскраў Ільіча“. З таго часу мінула 5 год. За гэтыя гады ў часопісі было надрукавана сотні апавяданняў, вершаў, нарысаў лепшых пісьменнікаў і саміх дзяткораў.

Дзесяткі тысяч окцябрат і вучняў чыталі сваю часопісь і вучыліся па ёй. Часопісь знаёміла окцябрат з тым, як жылі нашы бацькі раней, пад уладай капіталістаў і памешчыкаў; як перамаглі яны сваіх ворагаў і будуюць новае, радаснае жыццё. Часопісь расказвала пра слаўную Чырвоную армію, пра жыццё дзяцей у нас і за межамі. У „Іскрах Ільіча“ друкаваліся цікавыя казкі, апавяданні пра тэхніку, пра жыццё прыроды, розныя забаўныя прыгоды, загадкі, жарты...

Пра ўсё гэта будзе расказваць часопісь і ў далейшым. Рэдакцыя, пісьменнікі і мастакі будуць старацца яшчэ лепш працаваць, каб кожны твор і малюнак у часопісі былі цікавымі і карыснымі. Але трэба, каб і самі чытачы дапамагалі нам. Шліце ў рэдакцыю свае водгукі аб прачытаных нумарах—што вам спадабалася, а што не. Прысылайце свае творы і малюнкі. Пашырайце „Іскры Ільіча“ ў школах і окцябрацкіх групах.

Такой дапамогі мы чакаем ад вас, рэбята, у шостым годзе выдання часопісі.

П 29
56

Г.П.Б. в Лнгр.
Б. 1935 г.
Акт № 44












Я. КОЛАС

# „ІСКРЫ ІЛЬІЧА“

У пасцельку легла Ганя.
Кончан дзень, заснуць пара.
Ноч у вычварным каптане
Ціха крадзецца з двара
І цікуюць зоры з вышкі
Сінявокай грамадой,
А ў Ганусі, у малышкі,
Думак, мар, малюнкаў рой.
Быў цікавы дзень, выдатны—
Сонца, яснасць, цяплыня!
А найлепей окцябраты,
Іх забавы і гульня!
Былі песні, пагулянкі—
Не засне ніяк дзяўча!
А якія ў іх чытанкі,—
Кніжкі „Іскры Ільіча“!
Там і вершы, і расказы
Пра завод і пра калгас,
І рысункі, і паказы,
Як і чым запоўніць час...
Ціш і сон вакол маўклівы,
А ў Ганусіных вачах
Окцябрацкі шум щчаслівы
І іх „Іскры Ільіча“.



# Пахаванне казла



НАРОДНАЯ КАЗКА

Жылі былі дзед і баба. Дзяцей у іх не было. Мелі яны толькі рагатага казла.

Дзед ніякага майстэрства не ведаў, плёў лапці—толькі тым і жыў.

Прывык казёл да дзеда: бывала, куды дзед пойдзе, туды і казёл бяжыць за ім. Аднойчы пайшоў дзед у лес па лыка, і казёл за ім пабег. Прышлі ў лес. Дзед пачаў лыка драць, а казёл ходзіць ды сям-там траўку шчыпле. Шчыпаў, шчыпаў ды раптам пярэднімі нагамі праваліўся ў мяккую зямлю. Пачаў грэбці ды выкапаў адтуль гаршчок з грашыма. Бачыць дзед, што казёл грабе зямлю, падышоў да яго і ўбачыў грошы. Да таго дзед абрадваўся, што кінуў сваё лыка, забраў грошы—і дахаты. Расказаў пра ўсё бабе.

— Ну, дзед,—кажа баба,—гэта нам такое шчасце прываліла на старасць за тое, што колькі гадоў з табою гаравалі ў бядоце. А цяпер пажывем з радасцю.

— Не, баба,—адказаў ёй дзед,—гэтыя грошы знайшліся не нашым шчасцем, а казловым; цяпер нам шкадаваць і шанаваць казла больш як сябе трэба!

З таго часу пачалі яны шкадаваць і шанаваць казла больш як сябе, пачалі яго даглядаць, што лепш і не трэба. Дзед забыўся, як і лапці плесці,—жывуць сабе, пажываюць, ніякага гора не знаюць.

Вось праз некаторы час казёл захварэў і здох. Пачаў дзед

раіцца з бабай, што рабіць: „Калі выкінуць казла сабакам, дык нам за гэта будзе перад людзьмі сорамна, бо ўсё шчасце наша мы праз казла атрымалі. А лепш пайду я да папа і папрашу пахаваць казла па-хрысціянску, як і другіх нябожчыкаў хаваюць“.

Сабраўся дзед, прышоў да папа і кланяецца.

— Добры дзень, бацюшка!

— Здароў, чалавеча! Што скажаш?

— А от, бацюшка, прышоў да тваёй ласкі з просьбаю. У мяне дома здарылася вялікае няшчасце: казёл памёр. Прышоў клікаць цябе на пахаванне.

Як пачуў поп такія рэчы, моцна раззлаваўся, схапіў дзеда за бараду ды давай цягаць па хаце.



— Ах ты, зладзюга! Што выдумаў! — Смярдзючага казла хаваць...

—Дык-жа гэты казёл, бацюшка, быў зусім праваслаўны; ён адказаў табе дзвесце рублёў.

— Паслухай, стары дурань!— сказаў тады поп.—Я цябе не за тое б'ю, што клічаш казла хаваць, а чаму ты не паклікаў мяне паспавядаць яго перад смерцю. Тады ён-бы ў рай адразу як па маслу пайшоў.

Узяў поп дзвесце рублёў і кажа:

— Ну, ідзі-ж хутчэй да айца дыякана, скажы, каб падрыхтаваўся; зараз пойдзем казла хаваць.

Прыходзіць дзед да дыякана і просіць:

— Зрабі ласку, айцец дыякан, прыдзі да мяне на пахаванне.

— А хто ў цябе памёр?

— Ды вы-ж ведалі майго казла,—ён і памёр...

Як пачаў дыякан дубасіць дзеда па галаве ды па твары!

— Не бі мяне, айцец дыякан!— кажа дзед.—Казёл-жа быў зусім праваслаўны; як паміраў, табе сто рублёў адказаў за пахаванне

— Які-ж ты, стары, дурны!— сказаў дыякан,— што-ж ты раней не сказаў мне пра яго праваслаўную канчыну. Ідзі хутчэй да дзяка: няхай пазвоніць па казловай душы!

Прыбег дзед да дзяка і просіць:

— Ідзі пазвані па казловай душы.

І дзяк раззлаваўся, пачаў дзеда за бараду цягаць.

Дзед крычыць:

— Пусці, калі ласка, казёл-жа быў праваслаўны, ён табе за пахаванне пяцьдзесят рублёў адказаў.

— Што-ж ты да гэтага часу маўчаў? Трэба было раней сказаць мне: варта было ўжо даўно пазваніць!

Зараз-жа кінуўся дзяк на званіцу і пачаў званіць ва ўсе званы. Прышлі да дзеда поп і дыякан ды пачалі пахаванне служыць. Палажылі казла ў дамавіну, занеслі на могілкі і закапалі ў яму.

От пачалі пра тую справу гаманіць між сабой прыхаджане, і дайшло да архірэя, што поп казла пахаваў па-хрысціянску. Патрэбаваў архірэй да сябе на расправу дзеда з папом.

— Як вы асмеліліся пахаваць казла? Ах вы, бязбожнікі!

— Ды гэты-ж казёл, — кажа дзед,—зусім быў не такі, як іншыя казлы: ён перад смерцю адказаў вашай годнасці тысячу рублёў.

— От які ты дурны, дзед! Я не за тое крычу на цябе, што казла пахаваў, а чаму ты яго яшчэ жывога не сабораваў!

Узяў архірэй тысячу рублёў ды адпусціў дзеда і папа дахаты.






Верш С. Шушкевіча Малюнак І. Давідовіча

Грукаціць, стукоча воз—
Моцна змерзлася зямля.
На двары ужо мароз,
На двары ужо зіма.
Гэта хлопцам на-руку:
Пруць дарогай, на-цянькі,
На далёкую раку
Спрабаваць свае канькі.
Ледзяністаю дарожкай
Дзеці сыпнулі, як мошкі.
Тут снягуркі, там нажы.
Быццам вецер закружыў.
Закружылася галлё,
Затрашчаў раптоўна лёд:
Гру-у, ах!
Проста страх...

Смех замоўк і гоман сціх...
Нехта крыкнуў:
— Гэй, ляці!
Гэта толькі страшыць лёд,
Пачынайце зноў аблёт.
Зноў пусціліся у круг.
Сыпле снег, як белы пух.
Пабяліліся кусты,
Пабяліліся масты,
Пабяліліся пянькі,
Прытупіліся канькі.
І вярнуліся дамоў
Дзеці весела ізноў,
З тварыкамі свежымі
З вопраткай аснежанай.

## НАШЫ ПАЖАДАННІ ЧАСОПІСІ

Мы выпісвалі „ІСКРЫ ІЛЫЧА“ яшчэ ў мінулым годзе, калі вучыліся ў першым класе. Тады нам чытала настаўніца.

Сёлета мы ўжо самі добра навучыліся чытаць. Мы зноў падпісаліся на сваю любімую часопісь, чытаем яе і ў класе з настаўніцай і дома сваім малодшым братам і сёстрам.

У часопісі нам падабаюцца казкі, вершыкі і малюнкі.

Мы просім больш друкаваць казак і вершыкаў. Каб больш было ўсяго вясёлага і смешнага, каб малюнкі былі лепш расфарбаваны. Каб былі загадкі, рэбусы і такія малюнкі, як „Памылкі мастака“, а таксама розныя прыгоды.

Мы хочам, каб у часопісі друкавалі пра гарачыя і халодныя краіны, пра сланоў і ўсякіх жывёл і птушак. Каб пісалі, як жывуць дзеці ў капіталістычных краінах.

Вучні другога класа „А“ Магілеўскай 17 школы.



# Палявание на маманта

Нарыс І. Поляка
Малюнкі А. Волкава

Залацістым святлом сонечных праменняў блішчаць верхавіны дзікіх гор. У нізінах, над азёрамі, яшчэ не развеяўся белы туман. Пануры густы лес дрэвавідных папаратнікаў хвашчоў стаяў апавіты начным змрокам.

У адной з вялікіх гор відаць дзірка—гэта ўваход у пяшчэру. Час-ад-часу адтуль вырываюцца лёгкія воблачкі дыму. Усё мацней і мацней чуваць неразборчывыя выкрыкі.

Раптам каля пяшчэры паказаўся першабытны чалавек. Да яго падыходзіла ўсё больш і больш людзей. Натоўп рос. Чалавек размахваў рукамі і выкрыкваў нейкія гукі; другія дзікуны слухалі яго і махалі галовамі. Чалавек, які гаварыў, відаць, быў важаком гэтага племя. У адной руцэ ён трымаў доўгі кіёк з касцяным наканечнікам, у другой—карацейшы, зроблены з касці нейкай жывёлы. Карацейшы кіёк быў рашчэплены ў адным канцы. Туды быў устаўлен кавалак крэменя, падобны на долата. Крэмень быў моцна прывязаны тонкімі жыламі.

Другія таксама трымалі ў руках доўгія завостраныя палкі; у некаторых былі камені. Гэтыя людзі, як відаць, збіраліся рабіць нешта важнае. Але ўсе яны былі чамусці вельмі радасныя.

З пяшчэры выбягалі жанчыны і дзеці. Яны таксама размахвалі рукамі. Дзеці весела бегалі, падскаквалі, смяяліся.

Праз некалькі хвілін усе мужчыны і жанчыны, узброеныя каламі і каменнямі, рынуліся па вытаптанай сцежцы к возеру. Там, на беразе, віднелася жывая гара, пакрытая доўгай, бурай шэрсцю. Гэта ляжаў мамант. Ён уваліўся ў раней падрыхтаваную людзьмі яму. Мамант цяжка дыхаў, уздрыгваў і часад-часу рычэў.

Ён сярдзіта паглядваў на прышоўшых людзей. І хобат і загнутыя ўгору біўні,—і наогул увесь ён быў падрыхтаваны да смяртэльнага бою з людзьмі.

Як толькі людзі падышл зусім блізка, мамант яшчэ раз паспрабаваў хобатам і біўнямі ўперціся ў берагі ямы, каб вылезці. З вялікім шумам пасыпалася зямля на дно ямы і грузнае цела маманта яшчэ глыбей асела ўніз.

І вось пачалося наступленне людзей на маманта: спачатку з асцярогай, а потым смялей і смялей. З усіх бакоў білі маманта каламі, калолі яго завостранымі палкамі. Цэлы дождж каменняў сыпаўся на звера. Ад болю мамант дрыжаў усім целам, моцна рычэў, курчыўся, высока ўзмахваў хобатам, адрываў кавалкі зямлі ад берага ямы.

Далёка ў лесе раздаваўся пошчак ад крыку людзей, ад удараў каламі, ад звярынага рэву. Больш за ўсё мамант баяўся ўдараў па галаве. І людзі раз-по-разу падскаквалі да маманта спераду, спрытна ўдаралі па хобату і адскаквалі назад. Гэта былі самыя балючыя ўдары для маманта і самыя небяспечныя для людзей. Усякі раз хобат маманта мог нагнаць смяляку і тут-жа задушыць яго, як звычайнага камара.

Мамант азвярэў, вочы яго наліліся крывёю. Раптам адзін з адважных падскочыў зусім блізка да маманта. Не паспеў ён ударыць



Усе рынуліся к возеру.



Звер-велікан абвіў яго сваім хобатам.

як звер-вялікан абвіў яго сваім хобатам. Пачуўся страшны чалавечы крык...

Пасля гэтага некаторыя кінуліся наўцекі, а больш смелыя зноў рынуліся на маманта. Двум з іх удалося папасці зверу ў вочы— і выкалаць іх.

Мамант быў на палавіну пераможан, бо ён не бачыў больш сваіх ворагаў. Жудасна зарычаў звер. З праколатых вачэй лілася кроў. Людзі з яшчэ большай заўзятасцю пачалі біць маманта, стараючыся ўдарыць па хобату.

Звер абараняўся, але дарэмна—цяпер ён не мог нічога бачыць.

Нарэшце мамант апусціў хобат і ўперся галавой у бераг ямы. У гэты час чалавек, што стаяў з каменным тапаром, як кошка скокнуў на шыю звера. Сваім тапаром ён раз-по-разу біў маманта па галаве. Як толькі мамант рабіў спробу хобатам скінуць з сябе чалавека, на яго зноў накідаліся людзі з каламі і білі.

Сілы маманта слабелі. Цяпер ён не рычэў сярдзіта, а жаласліва стагнаў. Яшчэ адзін, другі ўдар і востры камень дабраўся да мазгоў звера. Смяртэльныя дрыжыкі прабеглі па ўсяму целу маманта, ён пахіснуўся, падаўся ўперад і грузна апусціўся на бок.

Людзі перамаглі велікана-звера, уладара першабытнага лесу. Стомленыя, яны кідалі

зброю і з радасцю глядзелі на такую багатую здабычу.

На свята перамогі з пяшчэраў спяшаліся жанчыны з дзецьмі і старыя. Уперадзе ішло некалькі чалавек з галавешкамі.

Прышоўшы да забітага звера, яны ўзяліся раскладваць агонь з сухога папаратнікавага галля і хвашча. Другія, седзячы на тушы маманта, вострымі каменьчыкамі-скрабкамі адразалі кавалкі крывавага мяса.

Той чалавек, што прабіў каменным тапаром мамантаў чэрап, даставаў адтуль мазгі— самыя найлепшыя ласункі і тут жа з прагнасцю еў, шырока раскрываючы рот. Астатнія кідалі кавалкі мяса проста ў агонь, або натыкалі на завостраныя кіёчкі і, трошкі падсмажыўшы, хапалі і елі.

Людзі аб'ядаліся мясам. Пад'еўшы, яны тут-жа засыпалі, потым зноў уставалі і зноў елі. Некаторыя з іх раптоўна хапаліся за жываты, курчыліся ад болю і стагналі.

Баль цягнуўся да самага вечара. І толькі змрок прымусіў людзей пайсці ў пяшчэру на адпачынак...

Уночы прыбеглі на пах свежага мяса драпежныя звяры. Назаўтра людзям прышлося зноў весці барацьбу са звярамі за рэшткі здабычы.

Так цягнулася некалькі дзён.

Хутка ад велікана-маманта засталіся толькі адны косці. Частку касцей чалавек перацягнуў у пяшчэру і скарыстаў для выраба зброі, а частка засталася на месцы. І цяпер яшчэ дзе-ні-дзе знаходзяць тыя косці ў зямлі.



Баль цягнуўся да самага вечара.



# Жако

Апавяданне А. Дыла
Малюнкі А. Волкава

## I

Сям'я настаўніка Тамашова канчала абедаць. Раптам пачуўся званок.

— Жэня, пайдзі паглядзі, хто прышоў?— сказала маці.

Жэня падбегла да вакна і радасна закрычала:

— Паштальён, паштальён! Напэўна пісьмо ад цёці!

Яна з усіх ног кінулася да дзвярэй, потым вярнулася ў сталовую радасная і замахала пісьмом.

— Тата, чытай хутчэй, што піша цёця? Калі прыедзе? Ці прыедзе разам з Ніначкай?

Жэня, Бора і Каця акружылі бацьку. Бацька ўзяў пісьмо, асядлаў нос акулярамі, адкашляўся і пачаў чытаць:

„Дарагі брат, Косця! (гэтак звалі бацьку). Чакайце нас 24 красавіка. Я прыеду да вас пагасціць на два тыдні. Разам з Ніначкай і маленькім прыяцелем Жако, які, калі спадабаецца тваім дзецям, застанецца ў вас назаўсёды...“

Ну і шуму-ж было пасля таго, як прачытаў бацька пісьмо.

— А хто-ж такі гэты Жако?—здзіўлена запыталася Жэня.

— І сапраўды, хто-ж ён такі?—дадала Каця.

— Я ведаю,—сказаў Бора,—гэта напэўна хлопчык: вам Ніначка, а мне—Жако!

— Няпраўда, цёця піша, што ўсе дзеці будуць гуляць з Жако,—скрыўдзілася Каця.

— А мне здаецца, што гэта вялікая лялька!—здагадвалася Жэня.

— А можа гэта маленькі сабачка, беленькі, пушысты? Тата, Жако—сабачка, праўда?— запыталася Каця.

— Не ведаю, дзеці, можа і сабачка, але наперад не варта спрачацца. Заўтра прыедзе цёця, і тады ўбачыце.

## II

Назаўтра раніцай да варот дома пад'ехала падвода.

— Цёця, цёця!—зарадаваліся дзеці і бягом кінуліся на двор.

З воза сышла цёця з Ніначкай і бацька, які ездзіў на станцыю сустракаць гасцей.

— А дзе-ж Жако?—аглядаюцца дзеці.

На возе стаяла вялікая клетка. Дзеці падбеглі да клеткі і адразу ахнулі: у клетцы сядзела невялічкая рыжанькая малпачка. Як ні былі рады дзеці прыезду цёці і Ніначкі, але малпачка зацікавіла іх больш за ўсё.

У кватэры клетку адкрылі. Жако адразу ўскочыў на шафу ды пачаў дражніцца і крыў-

ляцца. Яго сталі клікаць, але злазіць ён не хацеў. Тады цёця дастала цукерку і паказала Жако. Жако злез з шафы і скокнуў цёці на рукі. Схапіў лапкай цукерку, разгарнуў пальчыкамі паперу, потым засунуў цукерку за шчаку і пачаў прасіць другую. Цёця дала яшчэ адну цукерку. Жако засунуў за шчаку і гэту ды зноў працягвае лапку.

— Э, дык ты гэтак цэлае кіло за шчокі, як у сумку, зложыш,—не дам болей,—засмяялася цёця.

Жако вышчарыў зубы, скрывіўся, потым выцягнуў з-за шчакі цукерку і стаў есці. Дзеці акружылі малпу і з цікавасцю разглядалі яе.


Жако перад люстэркай завязваў Борын гальштук.

— Глядзіце, глядзіце, у Жако лапкі зусім, як нашы, толькі чорненькія, як рукавічкі!—сказала Жэня.

— А мордачка ўся ў маршчынках, як у старога дзеда!—засьмяяўся Бора.

— А сам рыжанькі і валасаты!—дадала Каця.

— Трэба яму пашыць штаны і рубашку. Я сама пашыю. Мамачка, дай ласкуцікаў,—прасіла Жэня.

Мама дастала матэрыі, прыкроіла, і Жэня сама пашыла Жако прыгожую чырвоную камізэльку з гузікамі і зялёныя штаны. Пачалі апранаць Жако. Жако нічога не меў


Шарык падагнуў хвост і ўцёк.

супроць камізэлькі, але штаноў адзяваць не хацеў. Адбіваўся нагамі, парапаўся і чуць не ўкусіў Жэню за руку. Штаны ўсё-ж яму адзелі.

Пацешным стаў Жако. Ззаду праз дзірачку вісеў хвосцік. Нейкі час ён сярдзіта прагульваўся ў новым касцюме па хаце. Раптам убачыў каля стала сабаку. Стаў крадком падбірацца да Шарыка. Шарык спачатку не звяртаў увагі на гэтага франта. Калі-ж малпачка падышла бліжэй, ён ускочыў, натапырыўся і забурчаў. Жако нікольки не спалохаўся, а раз-раз! надаваў аплявух Шарыку. Бедны Шарык падагнуў хвост і саромліва ўцёк ад Жако.

III

Пасля абеда Жако дзесці прапаў.

— Жако! Жако! Дзе Жако?

Дзеці лазілі пад сталы, за шафу, шукалі па ўсіх кутках,—нідзе не было. Бацька адчыніў шафу і—што-ж ён убачыў? У шафе спаў Жако, накрыўшыся самай лепшай мамінай сукенкай. Вядома, уся сукенка была пакамечана. Бацька выцягнуў Жако за вуха з шафы і накрычаў на яго. Спачатку спрасонку Жако не зразумеў, у чым справа. Потым схаваўся ў куток і, выскаліўшы зубы, сярдзіта пазіраў на ўсіх.

У бацькі была тэрміновая работа. Ён сядзеў у сваім габінеце і выпраўляў сшыткі. Мама паклікала вячэраць. Жако не хацеў выходзіць з свайго кутка. Прышлося вячэраць без яго.

— Гэта ён злуецца!—сказала цёця.

Павячэраўшы, бацька вярнуўся ў габінет і ўбачыў: усе сшыткі былі падраны на дробныя кавалкі, стол заліты чарнілам. Гэта Жако адпомсціў бацьку.

— Ну і цёценька! Няма чаго і казаць, добры падарунак прывезла! Здаецца, што прыдзецца табе забраць яго з сабою назад,—раскрычаўся бацька.

Дзеці спалохаліся, сталі абараняць Жако.

— Ну, што з вамі зробіш,—згадзіўся, бацька,—няхай яшчэ пажыве, пабачым, што будзе далей.

IV

Хутка праляцелі два тыдні, і цёця з Ніначкай паехалі. Жако ўвесь гэты час трымаў сябе прыстойна. З мамай нават пасябраваў: яна карміла Жако смачнымі ласункамі. Таксама палюбіў ён і маленькую Кацю, бо яна яшчэ не хадзіла ў школу, як Жэня і Бора, і шмат часу праводзіла з Жако. Сябраваў Жако і з катом. Возьме яго на рукі, перабірае пальчыкамі шэрсць, шукае блох, а задаволены кот ляжыць сябе ды мурлыча.

Бора—піонер. Устаючы раніцаю, ён мыецца, апранаецца і перад люстрай завязвае свой гальштук. Аднойчы, прачнуўшыся, дзеці заўважылі Жако перад люстэркай; ён стаяў і завязваў Борын гальштук. Бора адабраў гальштук, Жако ўцёк у сталовую. Калі дзеці прышлі ў сталовую снедаць, дык убачылі— Жако сядзеў на бацькавым крэсле, у акулярах, і важна трымаў перад сабою газету.

У дзень адпачынку мама вымыла паллогу і чысценька прыбрала кватэру. Прыбраўшы, пашлі ў госці да знаёмых. Жако аднаго пакінулі дома.

Калі вярнуліся, дык убачылі: Жако сядзеў пасярэдзіне комнаты і размахваў бруднай анучай, а ўся падлога была заліта вадою. На чыстых ложках усюды былі сляды мокрых брудных лап Жако. Прышлося зноў усё прыбіраць.

Улетку Жако сталі выпускаць на двор. Ён лазіў па дрэвах, па платах і палохаў катоў і сабак. Спалохаў нават і адну старую бабулю. Было гэта так: Жако сядзеў за плотам і праз шчыліны глядзеў на вуліцу. У бабулькі якраз развязаўся шнурок на чаравіку, яна стала яго завязваць і бачыць: праз шчыліну плота да чаравіка цягнецца маленькая, чорненькая рука. Бабулька так перапалохалася, што, уцякаючы, нават згубіла свой чаравік.

Аднаго разу ўся сям'я сядзела за сталом і піла чай. Нечакана з'явіўся Жако і па-



Жако важна трымаў перад сабою газету.



Праз шчыліну плота да чаравіка цягнецца чорненькая рука.

Жако саскочыў са стала, зачапіўся за абрус і перакуліў на сябе міску з варэннем. Не паспела маці азірнуцца, як Жако згінуў. Не было яго цэлы дзень і толькі ў час вячэры ён вылез з коміна чорны, як камінар. Да ліпкай ад варэння шэрсці прыстала яшчэ і сажа. Прышлося мыць беднага Жако.

Каб больш не шкодзіў, Жако сталі прывязваць да стала.

Раніцай дзеці пайшлі ў школу, бацька на службу, а маленькая Каця з мамай—на рынак. Прывязанага Жако пакінулі дома. Спачатку ён скакаў на вяроўцы, потым пачаў рвацца і нарэшце перагрыз зубамі вяроўку. І вось тут Жако разышоўся ва ўсю. Вельмі-ж ён злосны быў, што яго прывязалі да стала. Пабіў слоік з малаком, у вядро з чыстаю вадою накідаў смецця, панадкусваў у кошыку ўсе гуркі і, растрыбушыўшы маміну новую шляпу, надзеў яе на галаву. На гэты раз узлавалася і маці. Ніякія просьбы дзяцей не дапамаглі: Жако завялі ў заалагічны сад.

лажыў на стол банку кансерваў. Усе здзіўлена пераглянуліся, а мама сказала:

— Бачу я, дзеці, што ваш Жако наробіць нам шмат бяды.

Другі раз у час снедання Жако прынёс пачку пячэння. Мама раззлавалася, заперла яго ў асобнай комнаце. Жако лапкай адчыніў фортку і вылез. А калі селі абедаць, ён прыбег ды палажыў каля бацькі каробку папярос. Следам за Жако прыбег прадавец кааператыва з палкай у руках і з крыкам:

— Ваша малпа ў нашым магазіне крадзе розныя рэчы. Калі вы не будзеце яе даглядаць, дык я яе заб'ю!

Бацька папрасіў у прадаўца прабачэння за жарты Жако і заплаціў за ўкрадзеныя рэчы.

Сяброўскія адносіны з мамай таксама хутка скончыліся. Зварыла мама варэнне і паставіла ў сталовай, каб астыла, а сама вышла на кухню. Калі яна вярнулася назад, дык убачыла Жако на стале. Ён абмакваў лапкі ў варэнне, трос імі, бо варэнне было яшчэ гарачае, і аблізваў. Убачыўшы маму



# СХІТРАВАЎ

Вершы А. Зімёнкі



1. На такім каньку брыклівым
Ані гэтак, ані так:
Як ні тулішся да грывы—
Не ўтрымаешся ніяк!



2. Трэба коніку—не йначай!—
Камень ззаду прывязаць,
Ён тады ўжо не паскача,
Больш не будзе падкідаць!



3. „Добра!—думае хлапчына.—
Лепш не выдумаў ніхто-б!"
І, прышпорыўшы ў рабрыны,
Крыкнуў радасна: „У галоп"!



4. Але дзе там? Конік быстры
Як брыкне яшчэ вышэй,
Дык у хлопца ажно іскры
Градам сыпнулі з вачэй!

# ЗАГАДКІ

1. Румяны Піліп да палкі прыліп.
2. Бурліць, шуміць, а дзе дык і работу робіць.
3. Па полі паўзе, траву грызе.
4. Лес стаіць, шуміць, гамоніць, прыдуць людзі—гару зробяць.
5. Доўгі нос і доўгі ногі,
Па балоце ходзіць строгі,
Страх наводзіць тут і там
Усім балотным жыхарам.
6. Нібы жук я жужжу,—
Жу жу-жу! Жу-жу-жу!
І кручуся, і вярчуся,
Проста ў хмары я імчуся.

## АДКАЗЫ

на загадкі шукай сярод наступных слоў: касілка, рака, самалёт, бусел, яблык, сенажаць.




# Знахадка

Апавяданне П. Рунца
Малюнкі Е. Саматыя

I

Дарэмна Янка турбаваўся. Калі ён прышоў у школу, ніхто не звярнуў на яго жаднай увагі. Кожны быў заняты сваёй справай. Адны сядзелі на партах і вучылі граматыку, другія ля карты вучылі геаграфію, іншыя расхаджвалі па класе, або грэліся каля печы. Гэта супакоіла Янку: значыць, ніхто не бачыў, калі ён падняў кашалёк з грашыма.

Зазвінеў званок, і вучні пабеглі на свае месцы. Увайшоў настаўнік. Паціраючы рукі, ён прайшоўся па класу і спыніўся каля стала, як укопаны. Настаўнік чакаў: можа хто з вучняў падняў кашалёк і зараз-жа яго верне. Аднак усе маўчалі. Тады Максім Андрэевіч спакойна запытаўся:

— З вас, дзеці, ніхто нічога не знайшоў учора?

Настаўнік абвёў вачыма ўсіх і стрэўся з Янкам. Янка апусціў вочы. „Няўжо ён ведае", падумаў Янка і ледзь не выдаў сябе. Але-ж не! Адкуль яму ведаць? Ніхто-ж не бачыў, як ён падняў грошы. Янка прыслухваўся. Настаўнік расказваў, што старшыня калгаса згубіў учора пяцьсот рублёў калгасных грошай разам з усімі сваімі дакумантамі. І кажа, што каля школы: ён заходзіў сюды перад ад'ездам у раён.

Вучні ажно ахнулі ад здзіўлення—згубіць столькі грошай! Кожны стараўся ўявіць сабе, што перажывае зараз старшыня і што яму будзе за гэта. Нехта нават запытаў, дзе цяпер старшыня. Толькі настаўнік хацеў адказаць, як раптам дзверы адчыніліся і ўвайшоў сам старшыня — высокі мужчына з даўгаватым, загарэлым тварам.

— Вы ўжо гаварылі? Ну і што? — запытаўся ён у настаўніка.

— Ніхто не знайшоў, кажуць,—безнадзейна пацiснуў плячыма настаўнік.

Дзеці заўважылі, што старшынёвы вочы раптам памутнелі ад такой навіны. Да гэтага ён жыў надзеяй, што грошы знойдуцца. А цяпер?

Янка стараўся быць спакойным, каб не выдаць сябе. Усе сядзелі ціха: ніхто не адважваўся зварухнуцца.

— Вучань совецкай школы павінен быць чэсным і справядлівым,—зноў загаварыў настаўнік.—І калі-б хто з вас знайшоў, я спадзяюся, ён, канечне, аддаў-бы. Утаіць знойдзеныя калгасныя грошы, гэта ўсёроўна, што ўкрасці. А зладзеі—нашы ворагі.

Гэтыя словы зрабілі на вучняў вялікае ўражанне. Усе пераглянуліся.

— А што вам за гэта будзе?—запытаў у старшыні белагаловы хлопчык, першакласнік Колька.

— Судзіць будуць,—адказаў старшыня. Гэта-ж грошы грамадскія, калгасныя. Ясна, што іх трэба і шкадаваць і берагчы, як сваё вока. Я не ўсцярогся, згубіў—я вінават і кару павінен панесці. Вось як...

Тут Максім Андрэевіч растлумачыў, што трэба глыбей глянуць на гэтае здарэнне Справа ў тым, што класавы вораг скарыстае гэты выпадак для таго, каб падарваць калгас: скажа, што ў калгасе нішто не шануюць, разбазарваюць...

Толькі цяпер зразумелі вучні важнасць справы.

Нарэшце заклапочаны старшыня вышаў з класа.

Пачалася лекцыя.

II

Знайшоўшы грошы, Янка ажно затросся быў ад радасці. Гэтулькі грошай! Яму і ў сне ніколі такая сума не снілася. Праўда, матцы ён не прызнаўся: усё роўна прымусіла-б аддаць, ды і набіць магла-б за ўтойванне. Яна-ж такая чэсная і сумленная калгасніца.

Пасля-ж гутаркі настаўніка і старшыні у Янкі як-бы нешта адарвалася ўнутры. Зразумеў, як нядобра зрабіў ён. Учынак яго нікуды не варты, паганы. Думкі аб гэтым бязлітасна мучылі яго, грызлі за сэрца. Дык што-ж зрабіць? Утойваць да канца? Ніколі нікому аб гэтым не гаварыць? Пакутаваць праз гэта? Не, не! Лепш прызнацца





Віцька падумаў і сур'ёзна адказаў:

— Я аддаў-бы. А ты як думаеш?

— Я таксама,—схлусіў Янка на гэты раз і пабег у хату па кнігу.

Віцькавы словы падмацавалі Янкава рашэнне. Толькі так на яго месцы і павінен быў зрабіць кожны калгаснік і вучань совецкай школы. Правёўшы Віцьку на вуліцу, ён падбег да прызбы, хуценька адкапаў кашалёк, запхнуў яго ў кішэню і памчаўся за вароты.

— Куды ты гэткай парою?—гукнула маці, вышаўшы на двор.

— Да старшыні, у калгас!—адказаў Янка і знік за варотамі.

і папрасіць прабачэння,—парашыў Янка. Ад такога рашэння лягчэй стала. Ён стралой вылецеў з хаты. На ганку галавой стукнуўся з Віцькам. Той скокнуў у бок, як заяц, і крыкнуў:

— Куды ты ляціш, як вецер?

— Я... Я...—тут Янка замяўся з адказам і ў сваю чарту запытаў, чаго Віцька ідзе да яго.

— Па кнігу,—адказаў той.

Пасля нейкага раздум'я Янка асцярожна запытаў:

— Ці шкода табе старшыні?

— Шкода. Тата казаў, што і старшыню асудзяць і для калгаса—гэта вялікая страта. Гэта-ж нашы, калгасныя грошы.

— А што-б ты зрабіў, каб знайшоў кашалёк?—раптам запытаўся Янка.



Цана 30 кап.

П 29
1203 -56.

# Лісіца-хітрыца

Малюнкі Н. Малевіча
Вершы А. Зіміонкі

(*Працяг*)



1. Гэй, сабаку ратаваць!
І хлапцы стралой ляцяць...
Не прайшло хвілін і трох —
Завіляў хвастом бульдог.



2. Але раптам аж ірывеў.
Хвост зламаны забалеў...
Ой, Марылька, памажы —
Марляй хвост перавяжы.



3. А цяпер айда ў паход—
Зноў шукаць лісіны ход...
Вось бульдог знайшоў нару
І склікае дзетвару.



4. Дзеці крыкнулі—ура!
Ажно бачаць—зноў нара:
Ліс не дурань—ён хіцёр,
Ён між двух схаваўся нор.



5. Узяў Ігнат у Ціта бот—
Гоніць дым ў падземны ход.
Над другой нарой—сілок...
Толькі вылезь, галубок!



6. Ліс цярпеў, цярпеў, цярпеў—
Ледзь ад дыму не самлеў...
Потым зразу з норкі—скок!
І папаўся у сілок.



7. Вось назад ідзе атрад—
Ціт, Марыля ды Ігнат,
А за Цітам хітры ліс,
Хвост і нос спусціўшы ўніз.



8. На двары узняўся крык:
Певень, гуска і індык—
Кожны крыўду ўспамянуў,
Кожны ліса дзюбануў!

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА“. Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ.

Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КОМСАМОЛЬСКАЯ, 25, тэлефон 21.376.

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 1301. 9.620 экз. Менгарліт № 6009.